*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*




# наша слова

№ 26(36) • 14—20 ЖНІЎНЯ 1991 г. • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)

## Поступ тыдня

**НАДРУКАВАНА** новая карта радыяцыйнага забруджання Беларусі. Многія месцы, якія яшчэ нядаўна аддзяляліся няпэўнымі штрышкамі — ці то ёсць там радыяцыя, ці то няма — цяпер памечаны аднолькава з самымі небяспечнымі раёнамі. Сціскаецца шчыгрынавая скура!.. У той жа час паведамляецца пра пасяджэнне ўрада рэспублікі, дзе гаворыцца пра тыя ж чарнобыльскія клопаты. Вымовы, папярэджанні адказным кіраўнікам... А якія зрухі? Людзі як жылі, так і жывуць у невыносных умовах. Не робіцца самае элементарнае — харч не завозіцца, урачоў няма, дамы для перасяленцаў не будуюцца. Хто ж нарэшце скажа: вось канкрэтная праграма, неабходныя рэсурсы і дакладныя тэрміны выканання, парушаць якія катэгарычна забаронена?

**20 ЖНІЎНЯ** ў Алма-Аце збяруцца лідэры 15 рэспублік, каб падпісаць Саюзны дагавор. Што гэта будзе — свята ці будзённая падзея? Выказваюцца розныя погляды. У многім такая супярэчлівасць вынікае з самога дакумента. Ў ім прадугледжваецца надзяліць рэспублікі суверэнітэтам, але не ліквідуецца і моцны цэнтральны ўрад. Новае аб'яднанне афіцыйна названа абноўленай федэрацыяй, хоць многія бачаць у ім прыкметы канфедэрацыі. Самі ўдзельнікі гэтай акцыі лічаць, што вырашэнне ўсіх супярэчнасцей будзе зроблена пасля падпісання дагавора. Але ўжо сёння ёсць падстава ў тых, хто мяркуе: надыходзіць канец для звышдзяржавы.

**У ЛЕНІНСКІМ** раёне Мінска ліквідавалі 17 выбарчых акруг, жыхары якіх не змаглі вызначыць сваіх дэпутатаў: праведзена 10 тураў галасавання, а дэпутацкія месцы так і пустуюць — у раённым, гарадскім Савеце, нават рэспубліканскім парламенце. Да чаго дажыліся! Раней у 6—7 гадзін раніцы амаль усе паспявалі аддаць галасы за блок камуністаў і беспартыйных, а цяпер за паўтара года не набраць патрэбны мінімум галасоў. Газеты пішуць: трэба памяняць закон, прыстасаваць яго да апатыі выбаршчыкаў. Хоць, думаецца, можна было б памяняць і змест дэпутацкай працы, які б актывізаваў гараджан.

**СПЕЦЫЯЛІСТЫ** лічаць, што сёлета рэспубліка атрымае на 1 мільён тон збожжа меней, чым летась. Сродкі, каб закупіць патрэбную колькасць хлеба, пакуль не знойдзены. Трывожнае становішча і ў жывёлагадоўлі: не хапае рабочых рук. А ў хуткім часе вёска ў нас зусім апусцее, як у Нечарназем'і. Дык, можа, не варта цягнуць з рэформамі, што намечаны нашым парламентам?

## БЕЛАРУСКІЯ ЗАДАЧКІ ЧАСОЎ ГАЛОСНАСЦІ

Прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі Джордж Буш у Маскве сустрэўся і падпісаў важныя пагадненні з Прэзідэнтам СССР М. Гарбачовым. Цудоўна!

Тады ж Прэзідэнт ЗША сустрэўся з Прэзідэнтам РСФСР Б. Ельцыным. А на перагаворах у Маскве браў удзел Прэзідэнт Казахстана Назарбаеў.

Нарэшце, Джордж Буш наведаў Кіеў і сустрэўся з кіраўнікамі Украіны. Усё гэта вельмі добра, але...

Пытанне:

Пры якіх умовах і калі Прэзідэнт ЗША захоча наведаць члена Арганізацыі Аб'яднаных Нацый Беларусь і пажадае сур'ёзна размаўляць з яе кіраўнікамі?



*Цяжка роднаму слову на Радзіме*
Стар. 2.

*Галоўныя ворагі — «нацыяналісты»*
Стар. 2.

*«Хто ён, гэты канадзец, які ўпарта хоча застацца беларусам?»*
Стар. 3.

**Беларускае замежжа: у сям'і — на матчынай мове!**
Стар. 3

## ПЕРАСЕКЧЫ ГРАНІЦУ





Яшчэ зусім нядаўна жыхары суседніх з Літвой беларускіх раёнаў ездзілі туды за прадуктамі. Літоўцы прыязджалі да нас за іншым таварам. Жылі, прама скажам, дружна.

Цяпер усё інакш. Пасля ўвядзення ў дзеянне закона аб абароне спажывецкага рынку на граніцы паміж дзвюма рэспублікамі з'явіліся таможныя пункты, КПП. Тут цяпер можна, напрыклад, па беларускаму закону пазбавіцца аўтамабіля за правоз трох кілаграмаў кавы. Літоўскія стражы канфіскуюць блокі жуйкі, усялякія прадукты, спіртное, будматэрыялы і многае іншае. Прытым, паток транспарту, які ідзе з Літвы, кантралюецца больш строга, чым з беларускага боку. Беларусы абмежаваліся толькі стварэннем кантрольна-прапускных пунктаў, ды і то далёка не на ўсіх дарогах. У Літве ж гэтай справай займаюцца спецыяльны дэпартамент і нядаўна створаная таможная служба.

На здымках: 1. Вынікі канфлікту пагранічнай службы Літвы і АМОНа; 2. У цесным супрацоўніцтве працуе дарожна-паставая служба ДАІ Ашмянскага і Вільнюскага раёнаў. Злева направа — супрацоўнікі ДАІ Вільнюскага раёна Антанас Маркявічус, Юрый Фарбераў і старшы інспектар ДАІ Ашмянскага раёна Пётр Батыст. А вось апошняе паведамленне. Бандыцкія стрэлы, што прагучалі тут нядаўна, абарвалі жыццё семярым таможнікам. Ці ацалелі тыя, каго вы бачыце на здымку, пасля гэтага бязлітаснага налёту?

Фота Уладзіміра МЯЖЭВІЧА, Аляксандра ТАЛОЧКІ (БЕЛТА).

*Уладзімір ПЕЦЮКЕВІЧ*

### Зямля мая

Зачараваны і аблашчаны
Тваіх легендаў-казак словам,
Цябе я чую ў мове матчынай,
Як гул вякоў і шум дубровы.
Узгадаваны, неабдзелены
Тваёй трывогай і надзеяй,
Цябе я бачу непрыземленай, —
З табой мы небам **летуценім.**
О, Беларусь, святлом ахрышчаны
Тваіх бяроз і зорнай высі,
Хай сто разоў я буду знішчаны,
Мяне ніхто не перахрысціць!

*Леў МАРОЗ*

* * *

Яшчэ не выцвілі нябёсы,
Не адзіхацеў шоўк травы,
У рэчцы не плытчэюць плёсы,
Не хіліць пушча галавы,
Не ціхнуць спевы жаўруковы,
Не моўкне пошчак салаўёў...
Ды ўжо не ўчуць тут роднай мовы,
Знаёмых кольвек галасоў,
Бо вёскі ўжо няма...
Ні хаты
Ён не збярог, мой родны кут...
Стаю, нібыта вінаваты
За ўсе ў гадах мінулых страты,
За сум, што пасяліўся тут.

***Пачалася падпіска на 1992 год. Індэкс «Нашага слова» 63865.***

# Пра песні і іншае

Уключыш радыё і думаеш: знайшоўся б у нас такі зуххлапец, які б сеў і напісаў за дзень сорак саракоў песень на ўсе густы, каб удоваль наслухацца родных мелодый. Часам, хоць рэдка, у нашым жыцці такое здараецца.

У канцы мінулага года ў Брэсце былі паэт Алег Лойка і бард Алег Атаманаў. На сустрэчу з імі сабраліся людзі, якія зацікавіліся: што могуць праспяваць прафесар філалогіі і малады выкладчык універсітэта?

Сустрэча атрымалася цікавай. Апошняя ж песня з таго вечара і цяпер гучыць у маёй вясковай душы:

*Мой родны край, любімы край,*
*Мой родны край зялёны. —*
*Зялёны гай, зялёны гай,*
*Зялёны гай — зялёны.*

І ўспомніліся мне нашы народныя песні, якія раней часта гучалі па радыё. Цяпер жа іх не чуваць. Я упэўнены, што іх спецыяльна не перадаюць.

І яшчэ. У Брэсце ставіцца выдатны спектакль на беларускай мове «Славутае качанё Цім» (у перакладзе з англійскай мовы). Нават песні гучаць на беларускай мове, а не на арыгінале, як гэта робіцца звычайна. Дзецям падабаецца, але ж больш шырокае кола гледачоў мусіць прабаўляцца спектаклямі на рускай мове. Чаму? Або возьмем і такі факт. На паліцах кнігарань для дзяцей на беларускай мове нічога добрага не знойдзеш, затое на рускай — навалам.

Няўжо мы адраджаем рускую мову, а не сваю беларускую?

Яўген БЯЛАСІН,
выкладчык нямецкай мовы Брэсцкага педінстытута.

# СВАЁ — У ДВУХ СЛОВАХ

Не сакрэт, што Слонімшчына багатая славутымі і незвычайнымі людзьмі. Нядаўна мне давялося пазнаёміцца з адным цікавым чалавекам. Гэта — Міхась Барысавіч Літвінчык. Лёс Літвінчыка падобны да лёсаў яго сучаснікаў. Ён жыў пры буржуазнай Польшчы, ваяваў з фашыстамі. Асколак варожага снарада знаходзіцца ў ягоным плячы.

Усё жыццё М. Б. Літвінчык збіраў прыказкі, прымаўкі, афарызмы. А калі адчуў, што памяць стала падводзіць, пачаў іх запісваць. Так за 35 гадоў у яго сабраўся добры стосік агульных сшыткаў з запісамі. Акрамя таго, Міхась Барысавіч склаў звыш трох тысяч уласных прыказак, прымавак і ўстойлівых выразаў. Афарызмы Літвінчыка друкаваў беластоцкі штотыднёвік «Ніва». Расказвала пра яго захапленне і рэспубліканскае тэлебачанне ў перадачы «Роднае слова».

В. ВАЛАДАШЧУК.
Фота М. СУПРУНА.



# «Грамада» — газета беларускіх сацыял-дэмакратаў

***Выйшла новая газета «Грамада» — цэнтральны друкаваны орган Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады. Яна ставіць мэтай адрадзіць тую газету, што пачала выходзіць у 1917 годзе, працягваць традыцыі сваіх ідэйных папярэднікаў. У першым нумары надрукавана «Пажаданне ў дарогу» старшыні Цэнтральнай Рады БСДГ Міхася Ткачова, заява Цэнтральнай Рады «Аб адносінах да праекта Дагавора аб Саюзе Суверэнных Рэспублік і да заявы «9+1», нататкі па нацыянальным пытанні Тацццяны Паляковай «Чалавек, нацыя, дзяржава», прамовы (выступленні) сацыял-дэмакратаў аб увaходжанні ў Саюз, артыкул Сяргея Дубайца «Яшчэ пра БСГ, Луцкевіча і Ластоўскага» і іншыя матэрыялы.***

***Газета выходзіць раз у месяц, але на будучае мяркуецца выпускаць яе штотыдзень.***



# ВІНЦЭСЮ КАРАТЫНСКАМУ — 160 ГАДОЎ

*15 жніўня 1831 года ў вёсцы Селішча Навагрудскага павета нарадзіўся будучы пісьменнік-дэмакрат Вінцэсь Каратынскі. Навучыўшыся чытаць і пісаць у мясцовага арганіста, да астатняй навукі даходзіў сам. Нейкі час займаўся перапісваннем кніг. Служыў сакратаром у Сыракомлі. У 1852 г. з Сыракомлем пераехаў у Вільню, а вясной наступнага — у фальварак Барэйкаўшчына. У польскім часопісе «Бібліётэка Варшаўска» (1856) быў змешчаны яго першы верш «Над калыскай». Пяру Каратынскага належаць даследаванне «Саламон Рысінскі», творчыя партрэты Яўстафія і Канстанціна Тышкевічаў, Рамуальда Зянькевіча, паэтычныя зборнікі, артыкулы, нарысы.*

*Шасцідзесятыя гады для Каратынскага выдаліся нешчаслівымі. Так у 1862 годзе памёр Уладзіслаў Сыракомля. Надзеі на паўстанне 1863 года — не спраўдзіліся. А напачатку 1866 года з-за нястачы Каратынскаму давялося пакінуць Вільню і пераехаць у Варшаву, дзе да канца свайго жыцця ён супрацоўнічаў у польскім друку. З усёй беларускамоўнай спадчыны Вінцэся Каратынскага да нас дайшлі толькі тры вершы. Адзін з іх мы і прапануем увазе чытачоў.*

*Вінцэсь КАРАТЫНСКІ*

## Уставайма, братцы!

Уставайма, братцы, да дзела, да дзела!
З поўначы певень залопаў крылом.
Ну жа, каб жыва работа паспела,
Выслаць гасцінец жаўценькім пяском!
Дружна, грамада, у сардэчнай ахвоце
Духам насілкі на плечы ўздзень!
Ох, толькі ноччу няспорна ў рабоце!
Узыдзі нам, сонейка, прывядзі нам дзень!
Едуць к нам, едуць дарагія госці —
Зямель шырокіх моцны гаспадар.
Верныя служкі пры яго мілосці,
Дабра і шчасця за ім доўгі шар.
Як хадзіў пан Бог па земскай дарозе,
Кожын слаў світу ды зялёну віць.
Што ж разасцелем мы сваёй ўспамозе?
Узыдзі нам, сонейка, скажы, што рабіць!
Гдзе яго прымем? Чорная святліца,
Залатых тканак не судзіў нам Бог.
Што наймілейша — то матка-зямліца,
Жоўты пясочак на яе палёг.
Цябе ж на плечах, зямля дарагая,
Велькаму госцю пад ножкі нясу.
Ох, ды расою пясок прамакае!
Узыдзі нам, сонейка, падбяры расу!
Зара-зарыца бяжыць ужо з неба,
Любачкі звёзды бліснулі жывей.
З Богам, браточкі, канчайма, што трэба!
Лёгка на сэрцы і вачам святлей.
Зарыца кажа: «Вы — божыя дзеткі».
Звёзды мігаюць: «Братам стане пан...»
Вот туман цёмны рынуў на палеткі.
Узыдзі нам, сонейка, разгані туман!
Божае сонца бліснула на галі,
Дзяньку вялела гуляць на дварэ,
Шле да нас пташкі, каб пець памагалі,
Туман прагнала, расу падбярэ.
І наша сонца да нас прыбывае,
Дабро і шчасце рассявае ён...
Здароў будзь, велькі гаспадару края!
Здароў будзь, сонейка! Паклон, о, паклон!

1858 г.



*Уладзімір ДАМАШЭВІЧ*

# ШТО МЫ СТРАЦІЛІ, ШТО НАБЫЛІ

***Усё тое, што так ці інакш гаварыла аб былой гісторыі Беларусі, што так ці інакш магло напамінаць, што Беларусь гэта не ёсць Расія,— усё гэта нішчылася, праследавалася, выпальвалася агнём ды жалезам.***
А. ЧАРВЯКОЎ. 1924 г.

Калі чалавек доўга маўчаў, то яму хочацца гаварыць. Мы маўчалі шмат гадоў, загаварылі толькі з пачаткам перабудовы.

Страшна, што мы маўчалі пра свае беды, а іх было шмат. Яны і цяпер нікуды не зніклі, але сёння пра іх усе ведаюць і гавораць, а гэта ўжо надзея на тое, што мы іх адолеем. Бо адно — бачыць і маўчаць, значыць, нічога не рабіць, другое — бачыць і крычаць. Гэта ўжо сігнал да дзеяння, да руху.

З аднаго боку — захвальванне рэжыму, з другога — бязлітасная барацьба з тымі, хто яго крытыкаваў, хацеў палепшыць, адбірала ўсе сілы сістэмы. Такая сістэма дзяліла людзей на два лагеры. Адзін — гэта мы, апора рэжыму, а гэта яны — нашы праціўнікі.

А калі ўзяць нашу рэспубліку, то малюнак быў той жа самы, яшчэ і горшы. Дамешвалася нацыянальнае пытанне, яшчэ лягчэй было «пладзіць» і вышукваць «ворагаў». Імі былі перш за ўсё «нацыяналісты».

І ўсё гэта рабілася пад акампанемент «квітнеючай дружбы народаў».

Што дала нам, беларусам, гэтая дружба, перш за ўсё з Расіяй?

Цяпер аб гэтым можна ўжо гаварыць шчыра і без аглядкі — праўду.

А праўда ў тым, што Расія ніколі яшчэ не прызнала Беларусь раўнапраўнаю з сабою. Як і Украіну. Тры сястры, а ўсе такія розныя — па долі і па ролі ў гісторыі ўсходняга славянства.

Усім тром было нялёгка, усе не раз умываліся потам і крывёю, але перамагалі нягоды і жылі, дбалі пра будучыню. Тэрытарыяльнае становішча, кольказнае — вось тыя фактары, якія ўплывалі на лёс кожнай краіны-сястры.

Бяда ў тым, што яны мала дружылі, а больш варагавалі. Але гісторыкі нашага часу перасталі пра гэта пісаць. Яны і на даўнюю гісторыю сталі наводзіць глянец. Напрыклад, што Расія нікога не захоплівала, не заваёўвала, а толькі далучала, вызваляла.

Відаць, з гэтага ўсё і пачалося.

Расія вызваляла Беларусь з-пад Польшчы... Ці так гэта? Зусім не! У Вялікім Княстве Літоўскім уласна беларусы (тады ліцвіны) былі галоўнаю сілай дзяржавы, якія аб'ядноўваліся з украінцамі (тады русінамі) і ўласна літоўцамі (тады жмудзінамі). Яны ўсе складалі аснову Вялікага Княства Літоўскага, якое з 1596 года пайшло на саюз, унію з Польшчай, утварыўшы адну саюзную дзяржаву Рэч Паспалітую, у якой, аднак, самастойнымі часткамі засталося Вялікае Княства Літоўскае і Карона (уласна Польшча).

І калі Расія (Масковія) некалькі разоў дзяліла Польскае каралеўства, яна аддзірала па-жывому частку за часткай беларускія землі, землі Вялікага Княства Літоўскага. Іван Грозны не вызваляў Полацк ад «палякаў», як аб гэтым пісалі дасюль рускія гісторыкі, а захапіў Полацк у Вялікага Княства Літоўскага, якое было тады ў саюзе з Польскім каралеўствам.

Ёсць розніца ці няма?

Афіцыйная Расія заўсёды лічыла Беларусь рускаю правінцыяй, якая неяк паспела адкалоцца ад Расіі, а беларускую мову — паўночна-заходнім дыялектам рускай, як украінскую — таксама дыялектам, толькі паўднёва-заходнім.

Тады яна і лічыла патрэбным «вызваляць» Беларусь, «вызваляць» Украіну, далучыць іх да сябе — «отторгнутое возвратих». Хоць гэта не было «отторгнутое».

Цяпер трэба шчыра прызнаць, што Расія, карыстаючыся колькаснаю перавагай, рабіла экспансію на Захад, прыбірала да сваіх рук беларускія землі. І каб на гэтай тэрыторыі жылі не беларусы (літвіны), а які-небудзь іншы народ, усё роўна ён трапіў бы пад «вызваленне», бо Расіі патрэбна была дарога ў Еўропу. Аднаго акна, прасечанага яшчэ Пятром Першым, было ўжо замала.

Гэта, між іншым, элементарныя ісціны, аднак яны невядомы шырокім масам. Гісторыю напісалі такую, каб яна падабалася вярхам.

Людзі прывыклі да такой схемы, усякую іншую яны лічаць шкоднай ці нават варожай. І кожны, хто хоча даказаць нешта сваё, успрымаецца як бунтаўнік, экстрэміст, нацыяналіст.

Усё спрасцілася да дзікай антынавуковай схемы: хто гаворыць па-руску, хто за рускую мову, хоць сам і не рускі,— той інтэрнацыяналіст, а хто хоча гаварыць на сваёй і абараняе яе інтарэсы, — той нацыяналіст.

Зноў па старой схеме грамадства дзеліцца на два лагеры: рускамоўныя — інтэрнацыяналісты, усе іншыя — жыхары ўсіх рэспублік — нацыяналісты. Ні многа, ні мала!

Такая дзікая схема трывала засела ў галовах нашых савецкіх грамадзян, бо доўга і моцна яе заганялі пад чарапныя каробкі. Выбірай адно з двух: або ідэю «інтэрнацыяналізму», або... цябе чакае цяжкі лёс.

І па трагічных падзеях апошняга часу то ў адной рэспубліцы, то ў другой відаць, што гэтая ідэя яшчэ жыве, бо шмат у яе прыхільнікаў.

Людзей з такімі поглядамі сустрэнеш у кожнай нацыі. Ёсць яны і сярод нас, беларусаў, людзей даверлівых, у многім наіўных. Як нас выхоўвалі, вучылі ў школе? Беларус — малодшы брат Расіі. Каб не ён, мы нічога не мелі б. Гісторыя Беларусі — гэта кароткі дадатак да гісторыі Расіі. Усё жыццё нас вызвалялі рускія, нават ад самых сябе (як Іван Грозны — Полацк).

Дык вось, першае, што мы страцілі, жывучы побач з Расіяй,— гэта сваю нацыянальную гісторыю, а з ёю — і нацыянальны гонар, нацыянальную гордасць і годнасць. Пасля гэтага ўжо лёгка маніпуляваць грамадскаю думкаю, падганяць жыццё пад схему, высякаць цэлыя гістарычныя дубровы і засаджваць іх ліпавымі прысадамі. Афіцыйная беларуская гісторыяграфія толькі гэтым і займалася, на гэта яе і трымалі.

А сумленны гісторык, які хацеў дакапацца да праўды і расказаць пра яе людзям, аб'яўляўся ворагам свайго ўласнага народа! Секлі пад корань. Самых лепшых — патрыётаў, шчырых сыноў нацыі аб'яўлялі нацыяналістамі і знішчалі. А той, хто прадаваў нацыянальныя інтарэсы свайго народа, атрымліваў высокія пасады, званні, дабрабыт.

Імперыя гадавала сабе марыянетак, на іх яна рабіла стаўку, яны ёй верна служылі. І калі яны спачатку яшчэ ведалі мову народа, адкуль выйшлі, то потым адракаюцца і ад яе, бо гаварыць з вярхамі трэба на афіцыйнай, на «дзяржаўнай» мове імперыі. А што са сваім народам не на яго роднай мове — не вялікі грэх, за гэта зверху ляяць не стануць. Нават пахваляць і скажуць: правільна робіш, беларускі таварыш. Давай прыклад сваім вернападданым, няхай і яны пераходзяць на нашу прэстыжную мову. А тых, хто будзе пратэставаць, прыціскай, паможам. Будзеш мець ордэн...

Гэта ўсё ўмоўна, але так яно фактычна і было, так і вялося. Таму мы і апынуліся ў такім глухім тупіку, з якога выйсце адно: суверэннасць, незалежнасць не папяровая, як была дагэтуль, а фактычная — каб мы самі спакойна і свабодна рабілі ўсё ў імя свае нацыі, свайго народа.

Імперыя ў тым адыёзным значэнні слова павінна скончыцца назаўсёды. Яе сіла цяпер не патрэбна нават ёй самой — яна бескарысная, прасоўвання на Захад больш не будзе, рэвалюцыя на экспарт больш не ідзе, яе ніхто не хоча купляць.

(Працяг у наступным нумары).

# Хачу перапісвацца з беларусам

*Пытанне — адказ*

Нядаўна я быў першы раз на Беларусі. З экскурсіяй у Брэст. Мы, тры настаўнікі, суправаджалі 28 школьнікаў.

Што мяне асабліва ўразіла? У Брэсце я не чуў, каб гараджане размаўлялі па-беларуску! Мы папрасілі жанчыну-экскурсавода: дайце магчымасць паслухаць, як гучыць мова беларусаў. І вось у канцы экскурсіі яна выканала нашу просьбу — расказала верш па-беларуску. Пасля гэтага я і купіў у кіёску «Наша слова».

На жаль, аказваецца, не толькі ў нас на Украіне існуе «Товариство українськаі мови імені Тараса Шевченка «Просвіта»! І што мы за людзі такія, што за народы, што нашы родныя мовы на нашай роднай зямлі маюць патрэбу ў абароне! Прычым і законы аб мовах прынялі!

Мне хацелася б чытаць пастаянна ваш штотыднёвік, але не ведаю, як на яго падпісацца.

Вельмі хачу таксама пазнаёміцца і перапісвацца са шчырым беларусам. Чалавекам, які любіць і ведае сваю культуру, літаратуру, гісторыю.

Нарэшце, хацеў бы вывучыць беларускую мову. Разумею, у рэдакцыі і без мяне клопату хапае, але, можа, нешта з маіх пажаданняў ажыццявіцца і з вашай дапамогай. З павагаю

Ярослав КУЗИК,
учитель мови
та літератури.

Ад рэдакцыі: наконт падпіскі на «Наша слова». На жаль, сёлета гэта зрабіць за межамі Беларусі няма як. Але з наступнага, 1992 года, можна будзе падпісацца: газета ўключана ва Усесаюзны каталог перыядычных выданняў. Індэкс «Нашага слова» на наступны год 63865.

Адносна перапіскі з беларусамі. Магчыма, гэтае пажаданне здзейсніцца пасля публікацыі пісьма. Для тых, каго зацікавіць прапанова, даём адрас Яраслава Аляксеевіча Кузіка:

275601, Украіна, с. Карапчів Вижницького району Чернівецької області.

І, нарэшце, трэцяе пажаданне нашага ўкраінскага брата — вывучаць беларускую мову. У гэтым яму можа дапамагчы ў пэўнай ступені «Наша слова». Рэдакцыя плануе даваць яшчэ больш разнастайных матэрыялаў па беларускай мове — яе гісторыі, асаблівасцях, скарбах, парады спецыялістаў тым, хто вывучае яе самастойна, літаратурныя ўзоры, а таксама ўказальнікі дапаможнай літаратуры і анатацыі-дайджэсты (сціслыя пераказы) публікацый па беларускай мове ў перыядычных выданнях, у тым ліку замежных.

*Беларускае замежжа*

## ГАЛОЎНАЕ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД БАЦЬКОЎ

Чытаю лісты пра трывогу за лёс беларускае мовы, пра тое, як трэба старацца, каб гэтай мове дзетак навучаць. Хачу коратка згадаць пра сваю практыку, як я навучаў сваіх дзетак. Магчыма, што некаму памагу.

У маёй сям'і заўсёды панавала беларуская мова. Змалку да яе прызвычаіліся і дзеці. Ведама, жывучы ў вялікім англамоўным горадзе Таронта, яны ведалі і простую англійскую мову. Але, калі пачалі хадзіць у школу, адразу высветлілася, што мала разумелі настаўнікаў. Мяне выклікаюць і пытаюцца школьныя ўлады, як сталася, што такое значыць? Дзеці тут народжаныя, а мовы англійскай не ведаюць? Мне раілі, каб для дабра дзяцей у хаце ўжываць чужую для маёй сям'і мову. Давялося ім падзякаваць за такую раду і запэўніць, каб не турбаваліся, бо, — казаў я настаўнікам, — дзеці мае дагоняць іншых. І сапраўды, ужо пры канцы першага года навучання кожны сын (меў іх тры) зраўняўся з іншымі дзеткамі, а ў вышэйшых класах усе былі перадавікамі ў англійскай мове. Сыны мае між сабою ўжывалі па-ранейшаму беларускую мову.

Мой метад навучання іх быў просты, але нялёгкі. Галоўнае — пераканаць іх: у кожным выпадку ў гутарцы са мною або з маці ці іншымі беларусамі, калі яны не ведаюць перакладу новага англійскага слова на родную мову, каб адразу пыталіся. Заўсёды трымаўся правіла: ніколі дзецям не дазваляць ніякіх адхіленняў ад гэтага.

Адзін з сыноў адышоў ужо ў лепшы свет, другі скончыў універсітэт, у якім вучыўся і расейскай мове. Ён цяпер удзячны бацькам, што навучылі яго сваёй роднай мове, чуецца свядомым беларусам, хоць радзіўся ў Таронта.

Ёсць у нас у Канадзе і Злучаных Штатах сем'і (іх няшмат), якія падобным метадам навучалі дзяцей роднай мове.

Калі гэтак можна вучыць дзяцей у чужым краю, то куды прасцей на бацькаўшчыне. Чаму чакаць, пакуль нейкі чужамоўны, варожы да беларускасці ўраднік табе дазволіць? Безумоўна, трэба старацца ўсе школы пераключыць, каб беларуская мова там панавала, каб даць магчымасць дзеткам вучыцца на роднай мове. Але...

Гэтым шляхам жадаю нашым суродзічам дома поспехаў у іхняй працы для адраджэння поўнай незалежнасці Бацькаўшчыны, а дзеткам — поспехаў у навуцы! Памажы Вам, Божа!

Кастусь АКУЛА,
Таронта (Канада).

# ХТО ЁН, ГЭТЫ КАНАДЗЕЦ, ЯКІ ЎПАРТА ХОЧА ЗАСТАЦЦА БЕЛАРУСАМ?

**Н**ЕКАЛЬКІ гадоў таму імя гэтага чалавека пэўнымі аўтарамі, якія спецыялізаваліся на «выкрыцці» беларускай эміграцыі, упаміналася толькі з эпітэтамі ахайвання і праклёнамі. Ды і ў наш час рускамоўны штотыднёвік «7 дней» не даў памерці бальшавіцкай традыцыі. Ну, а ў «застойны» час нават калі пісалі, што Кастусь Акула — літаратар, то з абавязковым дадаткам — «гэтак званы». Усё тое ствaралася не толькі для мясцовага ўжытку, але інтэнсіўна па розных каналах перадавалася за мяжу.

Што гэта магло выклікаць у адказ? Натуральна, адно — адчай і азлабленне. А іх у эмігранцкім асяродку хапала і без падагрэву савецкіх ідэолагаў, што мералі беларускае замежжа адным аршынам,— і тых, чые рукі сапраўды былі запэцканы крывёю нявінных ахвяр, і тых, хто па нейкіх прычынах аступіўся, або каго нават закінуў за мяжу злы лёс, непаразуменне, жах перад карнымі органамі ці нешта яшчэ. Усіх кляймілі нашы «чыстыя» сацыялістычна-камуністычныя праведнікі ўжо нават толькі за тое, што большасць нашых суродзічаў і ў эміграцыі працягвалі пачуваць сябе беларусамі. Нават вывучалі мову пакінутай Бацькаўшчыны. Хаця, здавалася, ні ім, ні дзецям іхнім туды ўжо ніколі не вярнуцца. Аніяк, нават душой пасля яе расстання з грэшным целам. Ці ўспамінам з вуснаў суродзіча.

Кастусь жа Акула быў не толькі грэшнікам часоў вайны. Вакол яго ў Канадзе пачала гуртавацца пэўная частка беларускіх эмігрантаў. У дадатак ён садзейнічае выданню газеты пад назвай «Зважай!», якую, здаецца, можна пры жаданні абвінаваціць ва ўсім, толькі не ў залішняй памяркоўнасці і пошуку згоды.

Да таго ж і самому гэтаму блуднаму сыну Беларусі даў Бог адметны літаратурны талент. Барыс Сачанка, які адным з першых у нас распачаў больш-менш уважліва пісаць пра дзеячаў культуры і літаратуры беларускай эміграцыі, станоўча ўпамінае працу Кастуся Акулы. Робіць ён гэта ў цэлым шэрагу сваіх публікацый — у часопісе «Маладосць», у «ЛіМе» і, нарэшце, у асобнай кнізе «Сняцца сны аб Беларусі...» (удастоена літаратурнай прэміі імя Мележа). Сачанка адзначае, што беларускі канадзец «у прозе працуе сур'ёзна, прафесійна», што ён «не толькі таленавіты пісьменнік, але мае і прафесійны такт, культуру». Тое, што Б. Сачанка даволі суб'ектыўна ацаніў шэраг ягоных твораў, напрамую супаставіўшы іх з біяграфіяй аўтара, ды яшчэ і недастаткова выверанай, К. Акула «перанёс мужна», «не ўступіў у спрэчку адносна іх вартасцей, што робіць ужо само па сабе гонар» канадцу. («Сняцца сны аб Беларусі...», Мн., 1990, с. 77—78). Цярплівасць сапраўды хрысціянская. Падобнай яшчэ пашукаць у нашым айчынным літаратурным асяродку.

Адзінае, супроць чаго К. Акула ўсё ж запярэчыў,— гэта супроць сцвярджэння, што ваяваў з саюзнікамі на баку гітлераўцаў. Нават даслаў ліст у «Маладосць». Часопіс гэты, як і «Полымя», ён даўно выпісвае, нягледзячы на тое, што чаго толькі ў свой час пра сябе не прачытаў. Б. Сачанка, аднак, біяграфічным звесткам, якія паведаміў пра сябе канадзец, не паверыў, застаўся на ранейшай пазіцыі: супроць саюзнікаў К. Акула, ён жа А. Качан, ваяваў, і ваяваў «добра».

У кнізе «Сняцца сны аб Беларусі...» Б. Сачанка трохі, праўда, па іншаму паставіўся да гэтай калізіі. Тым не менш даволі падрабязна распавёў, як «у студзені 1945 года ў Баварыі, у мястэчку Гіршан, пачала камплектавацца штурмавая брыгада войск СС пад назвай «Беларусь». Што камплектавалася яна «не адзін месяц, і асобныя яе «звязы»... пасылаліся гітлераўцамі на фронт... Урэшце... брыгада (дывізія) «Беларусь» у канцы красавіка 1945 г. здалася ў Баварыі ў палон амерыканцам. Гэта факты, а факты, як кажуць, упартая рэч...»

Што праўда, тое праўда. «На жаль,— піша Б. Сачанка ў сваёй кнізе далей,— праверыць факты, якія ён (Акула) паведамляе, у мяне няма магчымасці... Ды што,— скардзіцца ён тут жа, махнуўшы рукой на тое, як будзе пачуваць сябе ад гэтай «неправеранасці» канкрэтны персанаж ягонай кнігі,— нават колькі-небудзь вартай бібліяграфіі выданняў (беларускай эміграцыі — Э. Я.) і то няма. І мне, каб расказаць пра таго ці іншага «дзеяча» эміграцыі, давялося дзе толькі ні капацца, каб адшукаць хоць якія звесткі, а некаторыя факты браць і «напавер», бо ўдакладніць іх проста няма дзе. Таму я вельмі спадзяваўся на чытачоў, на іх дапамогу».

Даводзіцца толькі шкадаваць, што іншым разам «напавер» інфармацыя аўтарам, здаецца, бралася толькі з адной крыніцы.

Не беручы «напавер» ні ў кога, падзелімся нашымі сціплымі звесткамі пра беларускага канадца, тым болей, што, як нам здаецца, сапраўдная дыскусія пра ягоныя лёс і творчасць яшчэ наперадзе, калі наша грамадства сапраўды будзе мець магчымасць высвеціць для сябе хто ёсць хто ў беларускім замежжы, ці ў дыяспары, як цяпер кажуць. Лёс жа К. Акулы асабіста мяне зацікавіў пасля публікацый Барыса Сачанкі. А наогул цікавасць да беларускай эміграцыі была і раней. Можа, памятае хто з чытачоў: у свой час я паспрабаваў расказаць пра беларускага эмігранта-падлетка ваеннага часу ў сваім «алжырскім» рамане «Астравы» і ў яго працягу — «Год-другі ў Алжыры».

Але на кароткі час зноў вернемся да кнігі Б. Сачанкі «Сняцца сны аб Беларусі...» Там пісьменнік з відавочнай перадузятасцю цытуе ліст К. Акулы ў «Маладосць», дзе той паведамляе, як пасля вучобы ў Віленскай беларускай гімназіі «ў пачатку чэрвеня» паехаў паступаць «у Менскую школу «ахвіцэраў», дзе «сабралася звыш 300 кадэтаў — усе добраахвотнікі». Б. Сачанка вырашыў супаставіць гэтыя звесткі з публікацыяй былога камандуючага Беларускай Краёвай Абароны пры гітлераўцах Ф. Кушаля: «У другой палавіне чэрвеня 1944 г. у ахвіцэрскую школу ў Менску з'ехаліся 280 маладых кандыдатаў». Пісьменнік у сувязі з гэтым задае рытарычнае пытанне: «Каму верыць?»

Відаць, «верыць» тут больш трэба Кушалю, які валодаў дакладнымі звесткамі. Разыходжанне ў часе ў межах дзесяці дзён... Яно магло сапраўды быць істотным. Але тады, калі б наш даследчык падазраваў, што ў той прамежак часу якраз К. Акула (ці А. Качан) нешта кепскае рабіў. Аднак падобная версія не вылучаецца ўвогуле. Пра лічбы — 300 ці толькі 280, відаць, не варта і разважаць. Якая ў прынцыпе розніца?

Наступнае сумненне Б. Сачанкі: калі і як трапіў А. Качан-Акула да саюзнікаў? Ваяваў супраць іх? Дапусцім. Але тады, нават здаўшыся, ён хутчэй за ўсё стаў бы ваеннапалонным і трапіў у адпаведны лагер. Контрразведка ў англічан працавала не горш, чым смершаўцы.

Ну, і наконт часу. Б. Сачанка ў сваёй кнізе адзначае: брыгада (дывізія) «Беларусь» здалася ў палон амерыканцам (заўважым гэта!) у канцы красавіка 1945 года. «Гэта факты»,— падкрэслівае ён. Успомнім да іх яшчэ такі: брыгада «Беларусь» стваралася ў студзені 1945 года.

А зараз паспрабуем усё гэта супаставіць з афіцыйнай даведкай Міністэрства абароны Вялікабрытаніі. Чытаем у перакладзе з англійскай мовы:

Канстанцін Акула. Рэгістрацыйны нумар у Аддзеле па польскіх справах (Борн Авеню Хэйз Мідлсэкс) — 30081726. Званне: капрал (падафіцэр).

Нарадзіўся 16 лістапада 1925. Вёска Верацеі, Порплішчанская гміна, Дзісненскі павет, Віленскае ваяводства, Польшча.

Бацькі: Ігнат і Паўліна з роду Муха. Нацыянальнасць: беларус. Канфесія: праваслаўны. Да службы ў войску не працаваў.

Служба ў Польскіх узброеных сілах пад брытанскім камандаваннем: з 27 снежня 1944 да 6 сакавіка 1947. Служба ў Польскім экспедыцыйным корпусе: залічаны 7 сакавіка 1947.

Канчаткова дэмабілізаваны 11 чэрвеня 1947.

Дэмабілізаваны з падзякай.

Паводзіны: добрыя.

**Гісторыя службы.** Залічаны добраахвотна ў Польскія ўзброеныя сілы пад брытанскім камандаваннем, як указана вышэй. Служыў у Італіі і З'яднаным Каралеўстве да канчатковай дэмабілізацыі ў сувязі з эміграцыяй у Канаду.

Паступіў у 23 пяхотны батальён Другога польскага корпуса 27 снежня 1944. Пераведзены ў 17 Львоўскі стралковы батальён 5-й Крэсавай пяхотнай дывізіі 3 красавіка 1945.

Браў удзел у баях у Італіі з 3 красавіка 1945 па 1 мая 1945 (баявыя дзеянні каля ракі Сэнвё, за горад Балоння і Ламбардскую раўніну).

Быў запісаны пад імем Аляксандр Качан.

Пераведзены ў Вялікабрытанію пачынаючы з 1 мая 1945 г.

Знаходзіўся ў вайсковай падафіцэрскай школе ў Катэрынкемп, графства Ёркшыр з 23 мая 1945 да 28 лютага 1946 г.

BT/H

MINISTRY OF DEFENCE CS(R)2c
Bourne Avenue Hayes Middlesex UB3 1RF

Telephone 01-573 3831 ext

Mr Konstanty Akula
57 Riverdale Avenue
Toronto
Ont N4K 1C2
Canada

Your reference

Our reference
3/81726/CS(R)2c/W

Date
13 March 1989

Dear Sir

Thank you for your recent letter. I am pleased to confirm the following particulars of the military service of:

30081726 Corporal (Officer Cadet) Konstanty AKULA

born on: 16 November 1925 at: Wierecieje, Porgaliska, Dzisna, Wilno, Poland.

parents: Ignacy and P

Marital status

Nationality: B

Civilian occupati

Service with the Pol.

from: 27 Decembe

Service wi

Medals and Awards:

British: Italy Star, The War Medal 1939/45 (CS 20 enclosed).

Yours faithfully

A. Witko

A WITKO
for Departmental Record Officer

CS(R) 2a
POLISH SEARCH
MINISTRY OF DEFENCE

Прысвоена званне падафіцэра. Атрымаў новае назначэнне ў Італію, пачынаючы з 30 верасня 1946 г.

Медалі і ўзнагароды. Брытанскія: «Зорка Італіі». Медаль «За ўдзел у вайне 1939—45».

Так. Цяпер некалькі штрыхоў напаследак. Аляксандр Качан (ён жа неўзабаве — Кастусь Акула) з корпуса Андэрса Брытанскай Восьмай арміі, відаць, мог неяк і па-іншаму распарадзіцца ўласным жыццём. Скажам, асесці ў тыле ці яшчэ як, а не лезці пад гітлераўскія кулі і снарады. Ён папрасіўся на фронт. І не ў капцёрку яго там размеркавалі, а на браню танка, дэсантнікам.

Ужо ў Канадзе даведаўся: ягоны бацька Ігнат Качан быў арыштаваны энкавэдыстамі і загінуў у савецкім канцлагеры дзесьці ля Барысава ў 1951 годзе.

А наогул пра цяжкую драму свайго жыцця ён, магчыма, напіша яшчэ ўспаміны — па-хрысціянску бязлітасныя перш за ўсё да самога сябе, але і без роспачы і без ніякага азлаблення. І мы здолеем іх прачытаць. Бо і гэта — часцінка нашай трагічнай нацыянальнай гісторыі.

Было б вельмі пажадана, каб і іншыя хто з беларускай эміграцыі знайшлі ў сабе сілы зрабіць тое ж, па магчымасці без перадузятасці, так, быццам яны на споведзі ў царкве. Бо сапраўды то была б іхняя споведзь — перад суродзічамі дзеля самаачышчэння і ўласнай душы перад Богам.

Няхай бы зрабілі гэта і тыя, хто нават вельмі, нават цяжка вінаваты. Не кажу, што будзе пасля таго кожнаму дараванне народнае. Я і сам яшчэ не гатовы, відаць, каб усё і ўсім дараваць.

Але ёсць іншы суд і Вышэйшы суддзя. І ўсім нам стаяць перад ім.

Эрнэст ЯЛУГІН.

